Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 38 (92) Аўторак 3-га Лістапада 1925 г. м. Вільня Год II

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС



Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno; ul. Niemiecka 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój Nr 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11 — 1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стр. — 20 гр.
за радок нонпарэля у тэксьце — 25 гр.
на апош. стр. — 15 гр.

## Языковыя законы і жыцьце.

Актам выданьня языковых законаў польскі народ выказаў сваю традыцыйную толерантнасьць у адносінах да нацыянальных меншасьцяў. Законы гэтыя зьяўляюцца падставай добрых адносінаў паміж братнімі польскім і беларускім народамі.

І трэба прызнаць, што языковыя законы адыгралі ўжо значную ролю ў жыцьці Польскае Дзяржавы.

З аднаго боку яны мелі вялікі ўплыў на аздараўленьне ўнутранай сытуацыі края. Законы гэтыя былі адным з галоўных сьродкаў санацыі нашага крэсовага жыцьця. Яны прынясьлі беларускаму народу надзею на лепшую будучыну, а разам з гэтым зьявіліся падставай легальнай працы тых групіровак, якія паставілі сабе мэтай—*легальнае* змаганьне за нацыянальныя правы беларускага народу. Пасьля ваеннай і паваеннай крэсовай завірухі, беларускі народ ізноў аджыў і ў першы раз уздыхнуў вольна. Пад абаронай законаў ён сьмела пачаў тварыць сваю нацыянальную будучыну, захоўваючы ўдзячнасьць да той Дзяржавы, якая адчыніла яму гэткія шырокія пэрспэктывы на шляху нацыянальнага будаўніцтва.

Народ сьмела пайшоў спаўняць свой нацыянальны абавязак. Ён прыняў актыўнае вучасьце ў школьным плебісцыце і масамі пайшоў складаць дэкларацыі з жаданьнем утварэньня родных беларускіх пачатковых школаў. Бо народ беларускі сьвята верыў у закон і лічыў, што тое, што ў ім напісана будзе бязумоўна праведзена ў жыцьцё.

З другога боку ня малы ўплыў зрабілі языковыя законы і на палепшаньне адносінаў заграніцы да Польшчы. Робленыя да гэтага часу закіды аб уціску нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, з выданьнем гэтых законаў, адразу сьціхлі. Языковыя законы выбілі з рук, як унутраных, так і замежных ворагаў Польшчы галоўны козыр у іх барацьбе з Дзяржавай.

Але, мала выдаць законы, трэба яшчэ правясьці іх у жыцьцё. І вось тут трэба прызнаць, што нажаль языковыя законы — амаль не цалком да гэтага часу застаюцца толькі на паперы.

Ня толькі нашая беларуская мова, як гэта прадбачыцца законамі ня ўведзена ў урадовых установах крэсаў побач з мовай дзяржаўнай, але, што яшчэ горш, парушаецца нават сьвятое права кожнага народу на родную школу ў матчынай мове.

Ня гледзячы на тое, што там дзе былі зложаны дэкларацыі на беларускую школу, быў падняты проці гэтых школаў фармальны „крыжовы" паход, ня гледзячы на тое, што на барацьбу з гэтымі школамі былі мабілізованы ўсе павятовыя школьныя інспэктары, разам з іх штатам, нават часта пры дапамозе адміністрацыйнай улады, ня гледзячы на усё гэтае беларускі народ у найбольш сьвядомых раёнах стаяў моцна за свае правы на родную школу. Праўда былі і такія мейсцы, дзе застрашаны і маласьвядомы яшчэ народ зракаўся сваіх правоў і даваў згоду на школы польска-беларускія, бо яму было вытлумачана урадоўцамі, што такая школа нібыто ёсьць найбольш карысная для беларускага народу.

Скора пасьля плебісцыта было выдана распараджэньне, якое пярэчыла сэнсу языковых законаў. У сваім цыркуляры міністэрства асьветы абвясьціла, што будуць адчыняцца толькі школы двумоўныя, ці гэтак званыя ўтраквістычныя.

Аднак, ня гледзячы на тое, што школьны год ужо даўно распачаўся, а гэтага часу *не адчынена яшчэ ні аднэй беларускай, а нават утраквістычнай школы.*

З провінцыі даносяцца да нас трывожныя галасы найбольш сьвядомых і бязумоўна *лёяльных* сялян, карэспандэнцыі якіх мы сягоньня друкуем. Беларускі селянін ўсё яшчэ чакае свэей роднай беларускай школы і згаджаецца, нават, адчыняць прыватныя на поўным сваім утрыманьні. І гэта тагды, калі селянін гэты стогне ад вялікіх падаткаў!

Дык нельга-жа забіваць у беларусах астатнюю веру ў праўдзівасьць польскай толеранцыі. Нельга даваць козыры ў рукі ворагаў Польшчы, якія ўвесь час цьвердзяць, што языковыя законы застануцца толькі на паперы і ніколі ня будуць праведзены ў жыцьцё.

І нам здаецца, што палітычная сэкцыя міністэрства ўнутраных справаў, якая нядаўна распачала сваю працу па крэсовым пытаньням, павінна ў першую чаргу заняцца ўрэгуляваньнем школьнай справы згодна з языковымі законамі.

Рэалізацыя гэтых законаў будзе найлепшым прыкладам толерантнасьці польскага народу і бязумоўна дасьць вялікія карысьці самой Польскай Дзяржаве.

## ІНТЭРВЭНЦЫЯ.

У апошні час маскоўскія каты паднялі шум з прычыны падгатаваньня проці іх інтэрвэнцыі заходніх эўропэйскіх дзяржаваў. Савецкія газэты пішуць, што пытаньне аб інтэрвэнцыі ў Лёкарно вырашана аканчальна. І дзеля гэтага бальшавіцкая дыпляматыя пастанавіла рашуча зьмяніць сваю тактыку. Яшчэ перад адкрыцьцем конфэрэнцыі ў Лёкарно, Чычэрын пачаў флірт з Польшчай, з той „панскай" Польшчай, якая ўвесь час была крэпкім мурам, аддзяляўшым хаўрус чырвоных рэспублік ад „буржуазнага" Заходу. Пасьля гэтага флірта, якім Чычэрын хацеў выклікаць заздрасьць Нямеччыны і не дапусьціць да згоды яе з саюзьнікамі, у эўропэйскай прэсе паявіліся весткі аб тым, што, С.С.Р.Р. запрапанаваў Польшчы пакт, падобны да рэйнскага, г. зн. што С. С. Р. Р. абяцае гарантаваць непарушнасьць заходніх межаў Польшчы з Нямеччынай. Хаця Чычэрын, фліртуючы пасьля з Нямеччынай у Бэрліне казаў, што гэтыя чуткі—брахня, аднак ня ўсе яму паверылі.

Няма дыму без вагню. Нядоўга прыйшлося чакаць новых сьцьвярджаючых гэтыя чуткі вестак. Гэтымі днямі румынскія газэты паведамілі, што Саветы пры помачы мін. Скшынскага зрабілі такую-ж самую прапазыцыю й Румыніі. Польскі міністар заграничных справаў ўзяўся быццам пагадзіць Румынію з Саветамі. Пакуль што ані польскія афіцыяльныя сфэры, ані савецкія не запярэчылі гэтым весткам. Калі да гэтаго яшчэ прыняць пад увагу рэзкую зьмену адносінаў паміж бальшавікамі ды Турцыяй і тое, што Чычэрын паедзе назад дамоў з Нямеччыны праз Рыгу, дык мэты савецкай дыпляматыі будуць зусім ясныя: бальшавікі хочуць збудаваць на сваей заходняй граніцы кітайскі мур, які бараніў-бы іх проці магчымай інтэрвэнцыі з боку заходняй Эўропы.

Няўжо-ж Польшча, Румынія і прыбалтыцкія дзяржавы пойдуць на гэтую правакацыю бальшавікоў? Няўжо-ж гэтыя дзяржавы згодзяцца бараніць саюз чырвоных рэспублік, якога мэтай зьяўляецца зьніштажэньне ўсіх „буржуазных" дзяржаваў? Няўжо-ж Польшча, не пасьпеўшая яшчэ залячыць свае раны пасьля наезду чырвоных ордаў Будзеннага, хацеўшага пасьля заняцьця „Аршавы", напаіць сваіх коняў у Рэйне, адразу паверыла бальшавіцкім абяцанкам і замест той шляхэтнай ролі, якую мела дагэтуль, бароначы сваімі грудзямі заходнюю культуру проці наезду новых сучасных варвараў, адразу пераменіць сваю пазыцыю і будзе бараніць шайку сусьветных жулікаў, шпіонаў, правакатараў і катаў?

Мы, беларусы, голасна і адкрыта ставім гэтае пытаньне, дзеля таго, што той мур, за якім хочуць схавацца маскоўскія каты, будзе цягнуцца акурат праз нашую беларускую зямельку.

Нас больш чымсь каго іншага цікавіць закулісны бок савецкага флірта з Польшчай і Румыніяй, дзеля таго што мы на сваіх плячох перанесьлі і цяпер яшчэ пераносім ўсе „радасьці" мілага суседзтва з бальшавікамі. Вайна Польшчы з Саветамі афіцыяльна даўно ўжо кончылася, ёсьць нават рыжскі трактат, але для беларусаў міру яшчэ няма. То пры помачы дывэрсыйных бандаў, то комуністычных ячэек, бальшавікі ўвесь час стараюцца падтрымаць вайну між беларускім народам і польскай уладай. Падтрымоўваючы бязупынную пагрозу паўстаньня на ўсходніх беларускіх і ўкраінскіх землях Польшчы пры помачы агентаў комінтэрна бальшавікі псуюць добрыя адносіны між беларускім і польскім народамі. Ці мала церпіць нявінных беларускіх сялян пры ліквідацыі комуністычных ячэйкаў і дывэрсыйных бальшавіцкіх бандаў, падшываючыхся пад мясцовае беларускае насяленьне? Абмылкі магчымы заўседы і ўсюды. Лес сякуць, трэскі ляцяць. Але-ж гэты лес увесь час сякуць на беларускай зямлі. Паліцэйская ўлада кажа, што з апошнімі арыштамі ўжо будзе аканчальна ліквідавана бальшавіцкая арганізацыя, абхапіўшая Віленшчыну, Наваградчыну, Палесьсе, і Валынь. Няма ведама ці так гэта, бо ў гідры замест кожнай адсечанай галавы вырастаюць сем новых.

Калі толькі ў Лёкарно ўзапраўды пастаноўлена распачаць рашучыя крокі проці бальшавікоў, калі там пастаноўлена развярушыць гэтае бандыцкае гняздо, дык мы, беларусы можам толькі вітаць гэты добры пачын, дзеля таго, што нам ўжо неўмагату больш цярпець на сваім карку экспэрымэнты маскоўскага комінтэрна.

Ведама, бальшавікі пачнуць крычаць на ўвесь сьвет аб праве незачэпнасьці падпісаных з імі трактатаў і ўмоваў, аб нязгоднасьці інтэрвэнцыі з абавязкам няўмешацельства ўва ўнутраныя справы іншых дзяржаваў. Яны пэўне не пашкадуюць грошай на гэту агітацыю і магчыма знойдуць шмат прадажных абаронцаў сярод буржуазных дзяржаваў.

Але ці-ж бальшавікі могуць паважна казаць аб міжнародных законах, спаўненьні трактатаў, няўмешацельстве ў справы іншых дзяржаваў і г. п.? Як для злодзея не істнуюць замкі, гэтак для бальшавікоў не істнуюць трактаты. Усялякія трактаты і дагаворы з „буржуазнымі" дзяржавамі для бальшавікоў зьяўляюцца тым „траянскім канём", з якога пасьля вылязаюць уначы, каб падарваць нейкую дзяржаву ўнутры.

Будучы найгоршымі ворагамі культуры і ўсялякіх свабодаў ў сваей бацькаўшчыне, бальшавікі шырока карыстаюцца рэзультатамі культуры ў „буржуазных" дзяржавах, І ня толькі карыстаюцца гасьціннасьцю „буржуазных" дзяржаваў, ахранай асабістай незачэпнасьці чужаземцаў, але яшчэ выкарыстоўваюць на зло гэтыя здабы-

чы сучаснай культуры, выкарыстоўваюць дзеля сваіх подлых мэтаў. У той час, як у край маскоўскіх катаў ніхто ня можа пранікнуць ані тайна, ані легальна, каб не рызыкаваць сваім жыцьцём (працэс у Маскве 3 нямецкіх студэнтаў), ўся заходняя Эўропа, Амэрыка, Афрыка і Азія перапоўнены бальшавіцкімі камісарамі, якія спакойна разьежджаюць за награбленыя рускія і чужаземныя капіталы па жалезных дарогах, займаюць найлепшыя готэлі і лечацца ў найдаражэйшых курортах.

Дык-жа бальшавікі дзеля таго й падпісалі са шмат якімі дзяржавамі дагаворы, каб самім карыстацца свабодай у іншых дзяржавах, пазбаўляючы яе сваіх ўласных грамадзян. У кожным дагаворы яны асаблівую ўвагу зьвяртаюць на пытаньне аб няўмешацельстве ўва ўнутраныя справы дзяржавы, каб пасьля можна было ссылацца на дагавор, калі нейкая дзяржава страціць цярплівасьць, як напр. цяпер ангельцы з прычыны бальшавіцкай агітацыі.

Дзеля гэтага ці-ж могуць бальшавікі ў выпадку інтэрвэнцыі заходніх дзяржаваў, прыкрывацца міжнароднымі дагаворамі, якія для іх, паводле заявы Троцкага, зьяўляюцца толькі каваламі паперы? Як для зладзеяў няма прыпынку ні ў якой дзяржаве, гэтак сама не павінна быць прыпынку й для бальшавіцкіх камісароў. Не павінна быць спэцыяльнае манаполіі бальшавікоў на ўсялякія бяскарныя ліхадзействы. Годзі ўжо сьвет наглядзеўся на тое, як маскоўскія каты 8 гадоў купаюцца ў крыві расійскіх грамадзян. Англія, больш за ўсіх лібэральнічаўшая з бальшавікамі, цяпер пераканалася ў іхняй „лёяльнасьці і няўмешацельстве“ ўва ўнутраныя справы іншых дзяржаваў. Калі Грэцыя пачала вайну з Баўгарыяй дзеля нейкага невыясьненага пагранічнага інцыдэнта, дык С. С. Р. Р. дае тысячы розных паважных повадаў і прычынаў усім дзяржавам да аружнага выступленьня. Калі-б Эўропа, Амэрыка і Японія былі салідарны, дык няўжо-ж яны цярпелі-бы дагэтуль тое, што рабілі і робяць бальшавікі ў Эстоніі, Польшчы, Румыніі, Баўгарыі, Англіі, Францыі, Мароко, Малай Азіі, Кітае і г. д. Калі-б не было інтэрвэнцыі з боку, дык Баварыя і Вэнгрыя дагэтуль купаліся-б у крыві. А мы бачым, колькі там было і ёсьць комуністаў і іхніх прыхільнікаў. І ў С. С. Р. Р. на 150—200 душ выпадае ня больш аднаго комуніста. Але ўся гэта 500.000 шайка, зьвязаная агульнымі ліхадзействамі і страхам перад будучым строгім судом, гэтак арганізавала самаабарону, што расійскі народ ня скора зможа справіцца ўласнымі сіламі, калі ня будзе яму дана вонкавая падмога. А пакуль гэтая шайка міжнародных зладзеяў будзе гаспадарыць у С. С. Р. Р., ня будзе запраўднага міру ў Эўропе. Пацыфікацыя Эўропы павінна пачацца ад зьніштажэньня бальшавізма ў Расіі, скуль ён разыходзіцца ўва ўсе дзяржавы.

# Палітычны агляд.

Не пасьпелі яшчэ разьехацца ўсе дэлегацыі з Лёкарно, дзе былі зроблены крэпкія падставы будучай згоды ў Эўропе, як на Балканах загрымелі гарматы і стрэльбы. Дзеля нейкага няважнага пагранічнага здарэньня, якія на нашай граніцы з Саветамі здараюцца амаль што не штодня, Грэцыя пачала запраўдную вайну з Баўгарыяй. Грэцкае войска перайшло баўгарскую граніцу, заняло пасьля артылерыйскай бамбардзіроўкі горад Пятрычы, узяло палонных і далей абстрэлівае баўгарскія сялібы. Баўгарыя, меўшая на падставе Нэпльскага трактата права трымаць армію ня большую за 20.000 чалав., ня можа, ведама, весьці вайну ані з адным са сваіх суседзяў. Калі нават вясною гэтага году пачалася комуністычная разруха, дык баўгарскі ўрад зьвярнуўся да саюзьнікаў з просьбай павялічыць сваю армію, якая ня мела магчымасьці ўтрымаць у краі парадак. Толькі безаружнасьцю Баўгарыі можна растлумачыць сьмеласьць грэкаў, якія ўжо даўно пагражалі Баўгарыі. Дзеля гэтага баўгарскі ўрад, загадаўшы арміі, каб старалася не спатыкацца з грэцкім войскам, адразу зьвярнуўся да Лігі Народаў і саюзьнікаў з просьбай аб пасрэдніцтве і абароне.

Грэцка-баўгарскі аружны конфлікт зрабіў надта нядобрае ўражаньне на Францыю і Англію. Атрымаўшы скаргу ад баўгарскага ўраду, Брыан заразжа склікаў паседжаньне Рады Лігі Народаў, на якое зьявіўся й ангельскі міністар заграпічных справаў Чэмбэрлен.

Уся Эўропа з вялікім зацікаўленьнем сочыць за разьвіцьцем грэцка-баўгарскага конфлікта. На ім будзе рабіцца першая спроба новага апарату эўропэйскага міру — Лігі Народаў. Пасьля падпісаньня рэйнскага пакта і ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў, усе эўропэйскія аружныя конфлікты павінны рашацца Лігай Народаў. Дзеля гэтага ў данным выпадку ад усьпеха распачатых Лігай Народаў крокаў у грэцка-баўгарскім конфлікце залежыць аўтарытэт Лігі. Апроч таго адсюль можа зрабіць для сябе вывады і Нямеччына, якая яшчэ аканчальна не пакінула думкі направіць свае ўсходнія граніцы з Польшчай, што можна асягнуць толькі на шляху аружнага спатканьня.

У панядзелак на паседжаньні Рады Лігі Народаў, якое адбылася на пяты дзень пасьля таго як, пачалася вайна Грэцыі з Баўгарыяй, грэцкі дэлегат заявіў, што грэцкае войска зараз-жа пакіне баўгарскую тэрыторыю, як толькі баўгарскае войска пакіне грэцкую тэрыторыю, а баўгарскі дэлегат заявіў, што ніводнага жаўнера няма на грэцкай тэрыторыі. І каму верыць? З прычыны гэткіх нязгодных заяваў з абодвух бакоў, Брыан склікаў тайнае паседжаньне Рады Лігі, на якім пастаноўлена запрапанаваць баўгарскаму і грэцкаму паслам ў Парыжы, каб яны дамагаліся ад сваіх урадаў спыненьня ваенных апэрацый і вываду войска з чужых тэрыторыяў. А што—калі грэцкая армія не пакіне баўгарскае тэрыторыі і будзе і далей ваяваць? Ведама, з боку Лігі Народаў будуць санкцыі. Баяцца таго, што грэцка-баўгарскі конфлікт можа аслажніцца і прыняць пагрозную для эўропэйскага міру форму—няма чаго. Трэба толькі, каб францускі флот паявіўся перад Афінамі, або Салёнікамі, як грэкі зараз-жа здадуцца. Але калі-б на месцы Грэцыі была напр. Нямеччына, дык пры гэткім працягу часу яна, быўшы загадзя падгатаванай да вайны, магла-бы ў працягу 7-ёх дзён зрабіць поўную мобілізацыю і заняць частку Польшчы да Варшавы. А тады для яе не было б страшна выступленьне Францыі. Усё гэта, ведама, бяруць пад увагу немцы, якія, годзячыся з французамі і ангельцамі, усёж-ткі думаюць аб вайне з Польшчай.

Што гэта праўда, відаць з палітычнага крызіса, які цяпер перажывае Нямеччына. Лёкарнскія трактаты, як ведама, павінны перад аканчальным падпісаньнем іх у Лёндане быць ратыфікаваны парлямэнтамі падпісаўшых іх дзяржаваў. І нямецкія нацыяналісты, якія зьяўляюцца найвыдатнейшай у Нямеччыне партыяй і ўваходзіць у склад урадовай большасьці, заявілі, што яны ня будуць ратыфікаваць гэтых трактатаў. Каб узмацаваць свае пастановы, яны адазвалі з кабінэта 3 сваіх міністраў. Але ўрад, не трацячы надзеі на ўладжаньне гэтага конфлікта, не падаўся ў адстаўку і ня думае распускаць Рэйхстаг, ды назначыць новыя выбары як гэтага дамагаюцца соц.-дэмакраты, якія думаюць, што на новых выбарах атрымаюць большы ўсьпех. Да скліканьня Рэйстага яшчэ шмат часу і кабінэт Лютэра-Штрэзэмана мае магчымасьць выкарыстаць розныя способы. Апрача таго нацыяналісты ўжо ня першы раз робяць гэткія абструкцыі. Тое самае яны заявілі перад падпісаньнем пляна Даўса, для прыняцьця якога трэба было 2,3 галасоў Рэйхстага. А ў канцы канцоў галасавалі за прыняцьце гэтага пляна. Рэйнскі пакт дае Нямеччыне яшчэ больш выгадаў, чымсь плян Даўна. Шмат хто ў гэтым бачыць толькі скрыты манэўр, які мае на мэце аблягчыць работу Штрэзэману. Цяпер акурат ідуць паважныя перагаворы ў Парыжы датычна эвакуацыі Кёльна і зьмены палажэньня на прырэйнскай тэрыторыі. Гэтае апошняе саюзьнікі ставяць у залежнасьці ад выпаўненьня Нямеччынай варункаў абязброеньня. Нямеччына-ж з сваго боку,—падпісаньне пактаў ставіць у залежнасьць ад эвакуацыі Кёльна і прырэйнскай тэрыторыі. І Штрэзэман можа заявіць саюзьнікам: „гляньце, з якімі труднасьцямі я прымушаны змагацца ўнутры края. Значная частка насяленьня лічыць рэйнскі пакт і арбітражныя трактаты нявыгаднымі для сябе, а яны ня хочаць ўступіць, ня гледзячы на небясьпеку правала ўсіх рэзультатаў лёзанскай конфэрэнцыі“. Ведама, што рэйнскі пакт, які дае вялізныя выгады для Нямеччыны, будзе ў канцы канцоў ратыфікаваны Рэйхстагам і падпісаны ў Лёндане 1-га сьнежня.

Шмат паважнейшы ёсьць палітычны крызіс ува Францыі, які пачаўся не на палітычным а на фінансавым грунце. 27 кастрычніка кабінэт Пэнлевэ падаўся ў адстаўку. Міністэрскі крызіс ува Францыі падгатаўляўся ўжо даўно. Справа ў тым, што францускія соцыялісты, на якіх апіраўся радыкальны кабінэт Пэнлевэ-Брыяна-Кайо, у апошні час заняў рэзкую пазыцыю ў адносінах да фінансавай палітыкі Кайо. Яны ўзесь час дамагаліся, каб на капітал і маемасьць былі вызначаны асобныя падаткі, накшталт нашага падатка ад маемасьці. Але трэба памятаць, што ўва Францыі багата жыве значная большасьць насяленьня і дзеля гэтага нават радыкалы, бліска стаяўшыя па сваім пераконаньням да соцыялістаў, былі проці падаткаў на капіталы. Кабінэт Пэнлевэ яшчэ мог-бы выратаваць сваё палажэньне і істнаваць далей, калі б Кайо ўдалося дагаварыцца з Амэрыкай у справе ваенных даўгоў. Але пасьля таго, як ён вярнуўся з Амэрыкі з пустымі рукамі, лёс яго быў ужо вырашаны. Хаця кампанія соцыялістаў вялася выключна проці міністра фінансаў Кайо, аднак падаўся ў адстаўку ўвесь кабінэт, будучы салідарным з ім у фінансавай палітыцы. У данны мамэнт трудна прадбачыць рэзультат урадовага крызіса ўва Францыі, ад якога можа быць залежным лёс перагавораў з Нямеччынай і шмат яшчэ якіх пытаньняў.

*N.*

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

„Kurjer Polski“ Nr. 295 друкуе цікавае інтэрвью свайго супрацоўніка з сэкрэтаром сэкцыі для справаў нацыянальных меншасьцяў, якая істнуе пры палітычным камітэце Рады Міністраў. Як відаць з гэтага інтэрвью справы нацыянальных меншасьцяў уваходзяць у новую, больш карысную для гэтых меншасьцяў, фазу.

— Што цяпер робіцца ў гэтым напрамку? — спытаўся супрацоўнік „Kur. Pol.“ сэкрэтара сэкцыі п. Забяжоўскага

— Перш за ўсё ўладжаньне тых справаў, якія дагэтуль мелі характар адарваны, цяпер зьяўляецца пэўнай сталай сыстэмай, мэтодам уваходзіць у сваю нармальную калею.

— Як гэта будзе ў драбязах?

— Найлепш гэта відаць з падгатаванага на найбліжэйшае паседжаньне сэкцыі матэрыяла. Я, як яе сэкрэтар, зьбіраю з паасобных міністэрстваў матэрыял для тых справаў, якія паводле думкі паасобных міністэрстваў ужо пасьпелі гэтулькі, каб паступіць на разгляд сэкцыі. Гэты матэрыял датычыцца ўсіх міністэрстваў і абыймае цэлую масу ўсялякіх справаў меншасьцяў. Гэтак міністэрства ўнутраных справаў дае матэрыялы датычна аблягчэньня ўзаемных зносінаў насяленьня з уладамі, урэгуляваньня справы ўжываньня мовы меншасьцяў і г. п. Міністэрства W. R. і O. P. (рэлігіі і асьветы) напр. падало проэкты ў справе ўрэгуляваньня адносінаў дзяржавы да розных рэлігіяў, міністэрства зямельных рэформаў аб урэгуляваньні зямельных адносінаў на пагранічны. Падалі свае проэкты і міністэрства загранічных справаў, ды інш.

Калі да гэтага дадаць — канчае п. Забяжоўскі — што сэкцыя нацыянальных меншасьцяў мае магчымасьць беспасрэдных зносінаў з насяленьнем, дык заўважым, што ў гэтых справах зрабіўся важны зварот і поступ.

## За граніцай.

**Грэцыя—Баўгарыя.** Згодна з пастановай Лігі Народаў, грэкі адазвалі назад свае вайсковыя аддзелы з Баўгарыі Адыход войска ідзе нармальна. Для разгляду конфлікту паміж Грэцыяй і Баўгарыяй Рада Лігі назначыла камісію, зложаную з 5-ёх сябраў у склад якой уваходзіць адзін ангельскі дыплёмат, адзін афіцэр францускі, адзін афіцэр італьянскі і дзьве цывільныя асобы швэдзкай і бэльгійскай нацыянальнасьці.

**Латвія** З прычыны нападу латвійскіх студэнтаў на савецкае пасольства ў Рызе, міністар унутраных справаў выказаў савецкаму паслу свой жаль. Ня гледзячы на тое, савецкае пасольства дамагаецца сьледзтва ў гэтай справе і пакараньня вінаватых. Урад загадаў паліцыі лепей пільнаваць савецкае пасольства, каб ізноў не паўтарылася нешта падобнае.

**Францыя.** Новы францускі кабінэт міністраў складаецца з гэткіх асобаў: старшыня і міністар фінансаў—Пэнлевэ, мін. загран. справаў——Брыан, мін. юстыцыі—Шотан, мін. унутран. спр.—Шрамэк, ваен. мін.—Галятьё, мін. марскі—Борэль, мін. публічных работ—Дэ-Монзі, мін. асьветы—Дэльбо, мін. земляробства — Дюран, мін. гандлю—Данэль Вэнсан, мін. колёніяў—Пэрье і мін. працы і грамадзкай апекі—Антэрью.

**Эстонія** Латвійская прэса піша, што палітыка Эстоніі, якая не магла абапёрціся на Польшчу і Францыю, і не хацела падпасьці пад уплывы Англіі, пайшла ў напрамку зьліжэньня з С. С. Р. Р. Новы эстонскі міністар загранічных справаў Бірк, вядомы маскаляфіл і ёсьць небясьпека, што ён падгатуе грунт да такого цеснага зьліжэньня з С. С. Р. Р., што яно можа пагражаць незалежнасьці загранічнай палітыкі Эстоніі.

**Літва.** У некаторых мясцовасьцях Літвы, асабліва на пагранічны з Польшчай, яшчэ ад 1920 года істнуе ваеннае палажэньне. Гэтымі днямі соймам літоўскім было парушана пытаньне аб тым, каб зьняць ваеннае палажэньне, але проэкт гэты большасьцю галасоў правалілі.

**Нямеччына** Конфэрэнцыя паслоў разглядала нямецкую ноту ў справе абязброеньня. На гэтым самым паседжаньні разглядалася справа размяшчэньня саюзных войскаў над Рэйнам пасьля эвакуацыі Колёніі. Францыя і Англія ня будуць пратэставаць проці эвакуацыі Колёніі, але з умовай, што нямецкі ўрад датарнуецца да таго, што пастаноўлена ў Лёкарно.

**Італія** Фашызм спраўляў 3-я ўгодкі свайго істнаваньня. Мусоліні зрабіў агляд войска.

*Той хто ўмее чытаць, ніколі не паляну́йся прачытаць няпісьменнаму!*

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

# Агляд Беларускай прэсы.

### Дзіўная перамена.

Усім добра ведама, які моцны саюз быў у часе выбараў у Сойм паміж беларусамі з пад сьцягу А. Луцкевіча і жыдамі. Тады толькі адна беларуская група А. Паўлюкевіча, г. зв. „Беларускі Сялянскі Беспартыйны Саюз“, катэгарычна адмовілася ад уселякага супрацоўніцтва з жыдамі і востра выступіла проці 16-кі, бо лічыла, што нацыянальнае беларускае адраджэньне ня можа мець нічога супольнага, ані з сіоністычнымі, ані з інтэрнацыянальнымі тэндэнцыямі жыдоў.

І толькі цяпер, пасьля польска-жыдоўскай умовы, калі ўсім ужо стала яснай жыдоўская здрада, дык і іншыя, ня страціўшыя зусім розуму, беларусы зразумелі нарэшце ўсю шкадлівасьць гэтага саюзу для інтарэсаў беларускага народа. Яны самі ўжо прызнаюць, што жыды нягодна ашукалі беларусаў і не датрымалі зробленай падчас выбараў з імі ўмовы.

На гэтую тэму ў № 5 „Biełaruskaje Krynicy“ зьмешчаны вельмі цікавы і сымптоматычны артыкул пад загалоўкам: „Чым адкажам жыдом“, у якім гаворыцца, што:

„...Жыды двойчы нягодна абыйшліся з беларусамі. Паводле ўмовы паміж сябрамі блёку нацыянальных меншасьцяў, калі пасол якой нацыянальнасьці выбывае з Сойму, дык на яго месца заўсёды павінен быў прайсьці новы кандыдат тое-ж нацыянальнасьці. Каб гэта заўсёды магло стацца, дык стоячы на сьпіску наступны кандыдат іншай нацыянальнасьці павінен адмовіцца ад свайго фармальнага (а не сапраўднага) права.

Дык вось, калі два беларускія паслы, дзеля судовай справы, былі пазбаўлены свайго пасольскага мандату, то на іхнія мейсцы мелі прайсьці два іншыя кандыдаты беларусы. Аднак жыды, што стаялі за імі, не захацелі адмовіцца і адабралі гэтак ад беларусаў ажно двух паслоў“.

Далей, абгаварываючы польска-жыдоўскую ўмову, аўтар зазначае, што:

„...Жыды ўсюды памагалі ўціскаць паняволеныя народы, яны ўсюды ішлі з дужэйшымі, з маючымі ўладу, і памагалі ім зьдзекавацца над прыдушанымі... Дык няма дзіва, што яны цяпер зрабілі ўмову з палякамі проці беларусаў.

Аказваецца, што жыды ўжо шмат гадоў жывуць з мазольнай працы беларускага народу:

„500 гадоў жыды жывуць у Беларусі, 500 гадоў яны жывуць з беларускае працы, будучы пасярэднікамі, гандлярамі. За гэтыя 500 гадоў беларускі народ ніколі жыдоў не прасьледаваў. Дайшло да таго, што цяпер у Радавай Беларусі жыдам дарма надзяляюць беларускую зямлю каля местаў і мястэчкаў, ды даюць падмогу на сялібу і жывёлу. І за гэта ўсё жыды адплацілі беларусам польска-жыдоўскай змовай“.

Далей аўтар пытаецца: чым-жа маем адказаць жыдам за гэткую здраду і дае такі адказ:

„...Калі жыды за беларускае дабро варожа выступілі проці беларусаў, дык мы павінны абыйсьціся бяз жыдоў, патрапіць жыць так, як-бы жыдоў у Беларусі зусім ня было. Цяпер, калі беларус-земляроб хоча купіць солі, газы, зялеза, ён прадае збожжа, куры, жывёлу жыду і ў жыда-ж купляе соль і іншае. А мы павінны зрабіць так, каб беларус-земляроб прадаваў свой тавар свайму беларусу прамыслоўцу, а той яму прадаваў свой тавар. Кажучы каротка, мы павінны разьвіць свой гандаль і свой промысл. І вось, калі мы, навучаныя самымі жыдамі, што немагчыма з імі жыць у згодзе, створым свой промысл і свой гандаль, дык гэта будзе такая вялікая здабыча, якая створыць новую пару ў гісторыі беларускага народу... Усе іншыя, што прадаюць ці купляюць, павінны лічыць свае народнай павіннасьцяй прадаваць і купляць у сваіх“.

Між іншым, у гэтым артыкуле аўтар прызнаецца, што:

„Сапраўды наіўна было думаць, што з жыдамі магчыма на даўжэйшы час супрацоўніцтва“.

А здаецца, ня гэтак даўно і самі кіраўнікі „Biełaruskaj Krynicy“ былі гэткімі-жа наіўнымі і разам з вядомым А. Луцкевічам рабілі 16-ку, якая беларускімі галасамі правяла ў Сойм, нават ад гэткага выключна беларускага вокругу, як Наваградзкі, аж 2 паслоў-жыдоў.

Праўда, трэба аддаць справядлівасьць кіраўнікам „В. Krynicy“—у іх усё-ж-ткі хапіла грамадзкай сьмеласьці прызнаць сваю амылку. А цікава, ці хопіць гэтай сьмеласьці ў А. Луцкевіча, які фактычна і заварыў усю гэтую кашу з жыдамі і прадаў ім інтарэсы беларускага народу, падараваўшы ім беларускія мандаты. Пэўне-ж што не, бо яму гэтага не пазволіць зрабіць яго беспасрэднае закардоннае „начальства“, а таксама і бліжэйшая крэўная залежнасьць...

Ад сябе-ж мы скажам, што ня трэба было раней цалавацца з жыдамі, каб потым іх байкатаваць. Бо, як дзіўна было спадзевацца, што жыды будуць дапамагаць беларусам у іх нацыянальнай працы, таксама несправядліва за подлую здраду жыдоўскіх верхаводаў абвінавачываць увесь жыдоўскі народ, заклікаючы да байкатаваньня жыдоўскага гандлю.

*А. К.*

## У С.С.Р.Р.

### Трывожацца.

Савецкая прэса перадрукоўвае з журнала „Комуністычный Інтэрнацыянал“ стацьцю Зіноўева аб міжнародным палажэньні С. С. Р. Р. Прадседацель Комінтэрна падымае гвалт з прычыны нейкага „паходу“ на С. С. Р. Р. і характэрызуе яго, як падгатоўку да вайны з боку Англіі. „Цяпер“, — піша Зіноўеў — „калі гаспадарчае палажэньне Саветаў узмацняецца, калі падзеі ў Кітае зьяўляюцца крыніцай сілы С. С. Р. Р. на міжнароднай арэне, імпэрыялісты, з Англіяй на чале, пастанавілі нанясьці ўдар, дзеля таго, што бліжэйшыя некалькі гадоў будуць рашаючымі. Па думцы імпэрыялістаў, праз 5 гадоў будзе ўжо позна з прычыны ўзмацненьня С. С. Р. Р. і пры падтрыманьні яго Усходам—гутарка аб якой небудзь вайне з Саветамі стане зусім недарэчнай“. Чуе кошка, што мяса зьела і... чакае кары.

### Як жывецца работнікам.

Ў другім месцы, мы друкуем што рабочыя, як і пры царскай уладзе—бастуюць, каб паправіць сваё палажэньне. Вось пару прыкладаў таго, як ім жывецца ў „пролетарскйа“ дзяржаве. Рабочыя фабрыкі „Рабочій“ ў Нова-Барысаве пастанавілі прасіць аб павышэньні заработнай платы, папраўцы вэнтыляцыі на фабрыцы і адчыненьні сталоўкі.

У хлебапекарні М. Ц. Р. К. (хто яго ведае, што гэта за зьвер? Рэд.) рабочыя працуюць ў парванай вопратцы, многія босыя, без калпакоў. Памешканьне-ўсё ў брудзе. Ручнікоў няма. Ня дзіва, што потым у хлебе знаходзяць розныя „посторонніе предметы“. („Звезда“ № 237).

### Бастуюць і „там“!

Які „рай“ работнікам у „рабоче-крестьянской“ рэспубліцы, відаць з карэспандэнцый, якія зьмешчаюцца дзе-недзе ў Савецкіх газэтах аб забастоўках, якія то тут, то там, робяць рабочыя, каб палепшыць сваё палажэньне. Галоўным матывам зьяўляецца... ніская заработная плата. Значыцца „рай“ не для ўсіх істнуе. Рабочы, як і некалі „пры буржуях“—зарабляе мала. І як некалі царскі ўрад, так і „рабоче-крестьянскій“—тасуе тыя-ж мэтады „ўсьмірэньня“.

Вось факты з газэт „Правда“ і „Звезда“ за 14—17 г. м. У Мюльлераўскім районе Данецкага басэйну ўведзена ваеннае палажэньне з прычыны фабрычнай забастоўкі.

У Архангельску пры падтрыманьні ўсіх грамадзян — праводзіцца забастоўка рабочых ў сталовых і піўных. Быў і забастовачны камітэт. Значыцца ўсё ў парадку.

### Ня йдуць у комуну.

Пад гэткім загалоўкам Маскоўская „Правда“ (№ 235, за 14.X) друкуе карэспандэнцыю з Буйскага павету, Кастрамской губ., аб працы ў гэтак званых „Кресткомах“ (сялянскай комуне). Карэспандэнт піша, што ёсьць там 2 „Кресткомы“: у Пакроўскай і Прыгароднай валасьцях. У першым з іх лічыцца 900 сябраў, а ў другіх — 500. Першы загараў і засеяў ўсяго 3 дзес. зямлі, пры гэтым працаваў толькі адзін селянін, рэшта—ўсё „партыйцы“.

Другі-жа „Крестком“ займаецца толькі... прыёмам сяброўскіх складак ды раздачай іх...

Карэспандэнт з сумам піша, што сяляне ня ідуць у комуну і адгаварываюцца тым, што ў іх „свая работа ёсьць“.

Ясна: зразумелі да чаго вядзе „комуна“ і ня хочуць адбываць паншчыну для нейкіх „партыйцаў“.

# Да 8-ых угодкау Савецкай улады.



*[З журнала „Иллюстр. Россія“].*

Ад Тамерлана і Батыя,
Праз ўсе гісторыі гады,
Пад ўладай енчыла Расія
Тыранаў доўгай чарады.
Сьпярша—татары яе ссалі,—
А там—чарод прыйшоў сваіх:
Пасьля князёў-цары насталі,
Дый тыя, што „бліскі“ да іх.
Цярпеў народ і зьдзек і гора,
На ўсіх ён цяжка працаваў;
Праліў крыві і сьлёзаў мора,
І цудам—выжыў, не прапаў!
Аднак няволі доўгай годы
Пячаць агідну носіць ён:
Затраціў пачуцьцё свабоды,
Пакуль дайшоў да нашых дзён.
І ўсё-ж застаўся па натуры,
І пры князёх і пад царом—
Такім-жа ён як і прашчуры—
Ані быдлёй, ані зьвяром!
І з гэтакіх яго залетаў
Ўсяк карыстаўся хто хацеў.
А сам-жа ён ўзамен за гэта—
„Хам“, „быдлё“ — прозьвішчы меў.
І вось настаў Вялікі Год—
З крывавай бойкі цёмных хмар,
Як ластаўка усіх свабод—
Пярун ударыў: зьляцеў цар.
З мамэнту гэтага ідзе
Усіх паняволеных багацтва,
Лятуценьне ўсіх людзей:
Свабода, равенства і брацтва!
І пачулась кругом: годзе!
На векі скончана з няволяй!
У нас царыць ніхто ня будзе,
Ані з людзкой, ні з „Божай волі“.
На ўсе лады казалі, пелі:
„Цяпер раўня і мы з панамі!“
А гэтым часам—ў Крэмль заселі
Цар Ленін—Троцкі з кумпанамі.
Далей што была—ўсім вядома;
Вядома—ёсьць там што й цяпер:
Там грэх Гаморы і Садома,
І кроў і сьмерць—ў С.С.Р.Р!
І хоць тыранаў быццам змыла
Дзьвёх рэволюцыяў „волна“.
У Расіі горш як даўней была
У часы татараў ці цара.
Раней, калі быў цар і „баре“,
Казалі—„з іх вось ўся бяда!“
Цяпер на шыі, як татары
Сядзіць бандыцкая арда.
І сьсе і смокча свайго „сябру“
Ня дасьць падняць і галаву;
А што не так — дык ўраз за жабру,
Дый валачэ ў Г. П. У.
Раней лічыліся ахвяры
Найбольш на тысячы. А вот—
Царыць як сталі камісары—
Мільёны „вывялі ў расход“.
І ў часы роўнасьці, свабоды,
Нівошта лічаць чалавека.
А частка лепшая народа—
Сярод чужых,—ці зьгібла ў Ч.Э.К‘а!
Гадоў ўжо восем, як забрала
Расію злодзеяў гурма.
Усё разбурыла, раскрала,
Пустыня там, цмынтар, турма!
Там усё сьвятое адмянілі;
А у чым была „культуры цэль“
Усё забабонам аб‘явілі,
Там Бог: дубіна ды рубель.
Дзе цэрквы былі—цяпер кіны
Сьвятых павыкідалі вон;
З душы і сэрца—робюць кпіны,
А вера — толькі забабон!
З дзяцей усіх каб вышлі зьверы,
Шмат адкрылі сваіх школ,
Замест вучыцца—жарты з веры
Строіць дзікі комсамол!
Аднак—ня гледзячы на гэта,
У часы апошняе пары—
Завуць расійцаў усяго сьвета
Масквы крывавыя цары.
Суляць і службу і работы,
Даюць амністыю усім.
Ну словам: кіньце ўсе клапоты,
Свой лёс аддайце ў рукі ім.
Калі хто хоча:—што-ж, ідзіце,
Гасьцямі будзеце у „іх“.
А перш—рысунак паглядзіце—
З чым вас чакаюць „там“ усіх.—

*Б. П.*

